


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (1066) БЕЛАСТОК, 1 ЖНІЎНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## КАБ БОЛЬШ І ЛЕПШ

Кожная адзінка грамадства, кожнае прадпрыемства безупынна ставіць перад сабой усё больш адлеглыя мэты, усё новыя ды новыя задачы, безупынна імкнецца да ўсё лепшых, больш вартасных пладоў. Стараецца пры мінімальным укладзе працы дабіцца максімальных эфектаў, выкарыстоўваючы пры гэтым усе сілы свайго розуму. Сёння заглянем у жыллёвы кааператыў „Захэнта" ў Беластоку, бо кватэра ў жыцці чалавека — гэта ж вялікая рэч.

Згодна са станам на дзень 31 снежня 1975 г. кааператыў распараджаўся 261 тысячай 557 квадратнымі метрамі ўжытковай паверхні. Працавала ў ім 275 чалавек, з чаго 98 — у адміністрацыі. На працягу сваёй дзейнасці аддалі 5901 кватэру, у якіх жыве 22 тысячы людзей. Маёмасць кааператыва, якая дасягала 936 млн. злотых, у бягучым годзе перавысіць мільярд.

На гады 1976-1980 кааператыў паставіў перад сабой задачу — выкарыстаць рэзервы і павысіць якасць ды эфектыўнасць гаспадарання. Вось хаця б гаспадарка жыллёвымі рэсурсамі. Асноўнай задачай у гэтым напрамку з'яўляецца ўтрыманне ў адпаведным стане эксплуатаваных рэсурсаў ды іх абнаўленне, ну, і забеспячэнне жыхароў паслугамі. З увагі на апошняе адміністрацыя ды рамонтныя брыгады будуць працаваць нават у вячэрнія гадзіны. Прыкладна, у гэтым годзе тры разы ў тыдзень працуюць да пяці гадзін вечара. Наступнай галоўнай задачай з'яўляецца павышэнне прадукцыйнасці працы. Але не дзякуючы павелічэнню колькасці працаўнікоў, а павелічэнню іх ведаў. Кіраўніцтва кааператыва будзе ствараць усе ўмовы для вучобы ў сярэдніх і вышэйшых школах, а нават і на паслядыпломных студыях. Умовы фізічных працаўнікоў таксама палепшацца. Будуць аддадзены ў карыстанне новыя варштаты і ім падобныя памяшканні. Далей — справа інвестыцый. Асноўная задача, якую ставіць перад сабою кааператыў, гэта павелічэнне колькасці кватэр да такой ступені, каб выйсці за рамкі плана. Зразумела, справа не толькі ў колькасці. Вялікі націск кладуць і на якасць. Пры афармленні кватэр будуць выкарыстоўвацца высакаякасныя матэрыялы. Плануюць таксама зменшыць да мінімума прастой машын і сродкаў транспарту, што дазволіць частку паслуг выконваць сваімі сіламі.

Рэалізацыя прынятай праграмы дасць і рэчавыя, і фінансавыя эфекты. А будзе яна выконваца пры зменшанай на шэсць чалавек колькасці працаўнікоў, пры чым будзе сэканомлена 150 тысяч злотых.

(мш)



*Новы пасёлак у цэнтры Беластока.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*



*Ян Полюх, сын Яна — выдатны гаспадар з вёскі Сяміхочы ў Нурэцкай гміне.*

## КАЛІ Б СЫН ЗАХАЦЕЎ...

Стаім на прасторным панадворку, дзе сучаснасць выцясняе мінулае. За старым хлявом, які саламянай страхою амаль абапіраецца ўжо аб зямлю, красуецца новая прасторная, мураваная абора, а за аборай — такая ж клуня.

— Усё гэта будаваў я сам, — з гонарам заяўляе Ян Полюх, сын Яна, гаспадар з вёскі Сяміхочы ў Нурэцкай гміне, якога за добрыя паказчыкі ў жывёлагадоўлі і інвентарскім будаўніцтве ўзнагародзілі нядаўна Сярэбраным Крыжам Заслугі.

— Будаваў я гэтую абору, — працягвае селянін, — па-гаспадарску, таўшчынёю ў паўтара пустака, каб жывёла не замерзла. Калі ласка, паглядзіце...

Працяг на стар. 4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



## VIII З'ЕЗД БГКТ

## ПРЫЗНАННЕ ЗА ДЗЕЙНАСЦЬ

*(Выступленне дырэктара грамадска-адміністрацыйнага аддзела Міністэрства ўнутраных спраў Ежы Зарэмбы)*

Шаноўныя дэлегаты!

Хачу сардэчна падзякаваць за запрашэнне на з'езд вашага таварыства.

VIII з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства з'яўляецца важнай падзеяй у дзейнасці таварыства і ўсіх яго членаў. З'езд стварае нагоду для таго, каб глянуць на мінулыя чатыры гады, задумацца над дагэтуляшняй статутовай дзейнасцю таварыства, актыўнасцю яго членаў і іх укладам на ўсе галіны сацыялістычнага будаўніцтва ў Народнай Польшчы. З'езд стварае таксама нагоду для творчых пошукаў у далейшай дзейнасці таварыства на новым этапе развіцця краіны — на этапе пабудовы развітага сацыялістычнага грамадства. У статутовай дзейнасці таварыства можа пахваліцца вялікімі дасягненнямі, пра якія ідзе гаворка ў справаздачы ўступаючага праўлення.

Таварыства правільна здзяйсняе свае статутовыя заданні і мае важкія здабыткі ў галіне запакаення культурных патрэбаў сваіх членаў, умацоўвання брацкага сужыцця беларускага насельніцтва з польскім. Хачу падкрэсліць, што таварыства ў статутовай дзейнасці правільна спалучае культурна-асветную працу з ідэйна-выхаваўчай працай членаў таварыства для дабра пабудовы развітага сацыялістычнага грамадства, для дабра ўмацавання нашай супольнай Айчыны — Народнай Польшчы. Гэта высакародныя грамадзянскія заданні членаў таварыства.

Таварыства не мала зрабіла ў галіне прэсавай і выдавецкай дзейнасці. Важную ролю ў гэтым выконвае орган таварыства — штотыднёвік „Ніва", выдаваемы кожны год „Беларускі каляндар" і кніжныя выданні. У апошнім часе выйшаў зборнік вершаў і зроблена шмат у падрыхтоўцы да выдання зборніка сцэнічных твораў. Мы прыхільна адносімся да выдавецкіх планаў таварыства і па меры нашых фінансавых магчымасцей будзем памагаць у гэтай справе.

Карыстаючы з нагоды, хачу ад імя грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў прывітаць дэлегатаў, актывістаў і ўсіх членаў таварыства і выказаць прызнанне за вашу грамадскую дзейнасць. Жадаючы плённай нарады, хачу выказаць упэўненасць, што намечаныя на сённяшнім з'ездзе напрамкі далейшай дзейнасці будуць садзейнічаць яшчэ паўнейшаму здзяйсненню статутовых заданняў таварыства і будуць служыць выкананню задач, пастаўленых VII з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі, а менавіта пабудове развітага сацыялістычнага грамадства і развіццю нашай сацыялістычнай Айчыны — Народнай Польшчы.




# СЛУХАЮЧЫ ГОЛАС НАРОДУ

Палітбюро Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі сярод іншых важных спраў і праблемаў 13 ліпеня 1976 года абмеркавала і поўнасцю адобрыла прапанову ўрада нашай краіны наконт рэгуліроўкі цэн на некаторыя харчовыя прадукты, на абсталяванне і матэрыялы, неабходныя ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Цяперашнія прапановы ўрада — і гэта справа найважнейшая — **апрацаваны на аснове шырокай кансультацыі з працоўнымі краіны.** Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП, тав. Эдвард Герэк у час сустрэчы з рабочымі Шлёнска заявіў, што ў нашай Айчыне няма такіх спраў, якіх нельга было б абмеркаваць спакойна і па-гаспадарску, як у згоднай сям'і. І таму аб цэнах на харчовыя прадукты і на тавары сельскай гаспадаркі была праведзена гаспадарская гутарка ва ўсіх пярвічных партыйных арганізацыях, а таксама сярод рабочых і сялян. Шырокая кансультацыя спраў, якія маюць істотнае значэнне для ўсіх жыхароў краіны — гэта наш грамадзянскі, замацаваны канстытуцыяй абавязак і наша права. У поўнай згодзе з гэтым правам і з гэтым абавязкам знаходзяцца прапановы старшыні Рады Міністраў тав. Пятра Ярашэвіча, з якімі ён выступаў на гэтым пасяджэнні Палітбюро. З яго выступлення вынікае, што:

● у 1976 годзе будзе падрыхтавана толькі прапанова змены цэн на мяса і мясныя вырабы. Цэны ўсіх іншых асноўных прадуктовых тавараў астануцца на цяперашнім узроўні.

● Адначасова з прапановамі змен цэн на мяса і мясныя прадукты ўрад апрацуе прынцыпы павышэння зарплат, сямейных дадаткаў, пенсій, рэнт і стыпендый.

● Прапановы адносна рэгуліроўкі цэн на мяса і мясныя вырабы — не вышэй чым у сярэднім на 35% — будуць накіраваны ў Сейм і адпаведныя сеймавыя камісіі дзеля грунтоўнай абмяркоўкі. Пасля яшчэ раз будзе праведзена шырокая кансультацыя перш за ўсё сярод рабочых калектываў.

Сабраўшы ўсе прапановы і папоўніўшы імі свой праект, урад накіруе яго на абмяркоўку пасламі ў час звычайнай сесіі Сейма.

Знаходзіць тут глыбокае і поўнае адлюстраванне сацыялістычная дэмакратыя нашай краіны.

Разам з паведамленнем аб пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП 13 ліпеня гэтага года было аб'яўлена паведамленне Рады Міністраў аб зменах цэн скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў, а таксама рознічных цэн на вырабы, якія сяляне купляюць для сельскагаспадарчай вытворчасці і будаўніцтва. Ужо ад 14 ліпеня за 100 кілаграмаў жыта сяляне атрымоўваюць 450 зл., за 100 кг пшаніцы — 530 зл., ячменю харчовага — 505 зл, а піваварскага ячменю — на 35 зл. больш. Павышаны цэны скупкі бульбы, буракоў, рапсу, ільну, канапель, усялякай жывёлы, малака і птушак — словам, усяго таго, што прадае гаспадар, каб мець грошы.

Адначасова ўрад вымушаны быў павысіць цэны на штучныя ўгнаенні, сродкі аховы раслін, будаўнічыя матэрыялы (асабліва на цэмент, жалеза і дрэва), на трактары ды іншыя сельскагаспадарчыя машыны і прылады.

Аднак — і гэта трэба асабліва адзначыць — даход сялян з продажы сваіх прадуктаў па павышаных цэнах аж на 12 мільярдаў злотых перавышае іх расходы на пакупку ўгнаення, матэрыялаў, машын і прылад па новых цэнах.

Новая структура цэн у вясковым тавараабароце будзе спрыяць інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

(вр)



# ДОМ АДПАЧЫНКУ „БЕЛАРУСЬ"

Для токара Мінскага завода аўтаматычных ліній Міхала Жуковіча мінулым летам не было праблемы, дзе і як правесці свой чарговы водпуск. У завадскім камітэце яму запрапанавалі: ёсць бясплатная пуцёўка ў дом адпачынку — хочаш на 12 дзён, а хочаш — на 24, а за невялікую плату можаш паехаць і з сям'ёю...

Пуцёўка была ў дом адпачынку „Беларусь". Міхал не вагаўся ні хвіліны, бо добра ведаў, што ўсе, хто бываў у гэтым доме адпачынку, гаварылі аб ім вельмі добра. А ехаць было недалёка — дом адпачынку знаходзіцца ў прыгараднай зоне, кіламетрах у 20 ад Мінска.

...Маляўнічых месц у Беларусі шмат, асабліва недалёка ад Мінска. Тут прыгожыя пагоркі, парослыя сасновым лесам, а ўнізе раскінуліся прасторныя квітнеючыя лугі. Сярод іх нясе свае воды рака Свіслач. На пясчаным беразе ўзвышаюцца залатастволыя сосны. Яны схілілі свае галіны над ціхімі хвалямі ракі. Перабіраемся па крутабокім масціку праз Свіслач. Адсюль відаць прытульныя дамы. Гэта і ёсць дом адпачынку „Беларусь".

— О, нялёгкую задачу вы сабе выбралі, калі хочаце цяпер адшукаць свайго знаёмага, — усміхаецца каржакаваты, добра загарэлы мужчына гадоў 40. — Хто ў такую пагоду будзе ў пакоі сядзець? На рацэ пашукайце... А калі і там не знойдзеце, то трэба ў лесе пашукаць, можа ён у маліну пайшоў. Сёлета яе як ніколі многа. Мы вось з Аляксандрам сваім, — ён кіўнуў на стаячага недалёка вясёлага хлопца, — увесь час у лесе прападаем: то маліна, а цяпер вось грыбы пайшлі... Палюем з фотаапаратам на птушак, на звяркоў розных.

Знаёмімся: слесар Магілёўскага завода штучнага валакна Міхал Міхневіч. Ужо вось тыдзень, як у доме адпачынку. Ці падабаецца яму тут?

— Ведаеце, каб нават пагода падвяла, тут бы не засумаваў. Пасля снедання мы, як правіла, робім экскурсіі па наваколлі. Хіба нецікава, напрыклад, пабываць на старым млыне ці на месцы, дзе вяліся раскопкі старажытнаславянскага паселішча? А яшчэ зрабіць прагулку на цеплаходзе па Мінскаму мору? Ну, а калі раптам дождж — тады ў клубе глядзім кінафільмы, праводзім шахматныя турніры. У нас тут дасканалы тэнісны корт.

— Адпачываецца тут цудоўна, — гаворыць Жана Рунец, швачка-матарыстка Віцебскай швейнай фабрыкі „Сцяг індустрыялізацыі". — А што яшчэ важна: дзецям нашым тут падабаецца. Гляньце, якая дасканалая пляцоўка для гульняў тут абсталявана. Да дзяцей часта прыязджаюць артысты мінскіх тэатраў — юнага гледача і лялечнага. Сёння, напрыклад, у нашых малышоў увесь час размовы пра „Ката ў ботах". Сустракаліся ўжо і з Несцеркам — вядомым героем беларускіх народных казак. Колькі было захаплення! Мая дачка Надзя доўга будзе ўспамінаць, як адпачывала тут. На будучы год хочам ізноў сюды прыехаць.

Калі мы, нарэшце, сустрэліся з Міхалам Жуковічам, то першае, што яго зацікавіла, гэта было — ці абедалі мы ў сталовай дома адпачынку. Даведаўшыся, што не, здзіўлена развёў рукамі: як жа ж гэта так, калі ўжо вырашылі пазнаёміцца з тым, як тут адпачываюць, то трэба было пачаць менавіта ад сталовай. Бо з чаго ж, як не з разнастайнай і смачнай ежы пачынаецца адпачынак! А ў доме адпачынку яшчэ не здарылася, каб хтосьці быў незадаволены кухняй. Больш таго, тут можна заказаць сабе любыя стравы на дзень ці два наперад.

— Дом адпачынку — адзін з многіх, які карыстаецца папулярнасцю ў працоўных рэспублікі, — гаворыць Анна Буцэль, інспектар лячэбнага аддзела Рэспубліканскага ўпраўлення курортамі. — І трэба адзначыць, што сетка дамоў адпачынку, пансіянатаў, курортаў, прафілакторыяў ў рэспубліцы расце з кожным годам. Так, напрыклад, у 1975 годзе былі адкрыты новыя, кожны на 200 месц, санаторыі каля Гомеля і Асіповічаў. У мінулым годзе па пуцёўках прафсаюза адпачывала звыш 200 тысяч працоўных Беларусі. Пры гэтым трэба адзначыць, што асноўная маса з іх адпачывала па льготных (30% ад коштаў) і бясплатных пуцёўках.

**А. Кійранен,**
фота В. Казлова






**Sobota 31.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 Czarne słońce — film fab. radz. 12.55 Studio Olimp. 16.10 Pr. I prop. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Kupujemy rekwizyty — reportaż. 17.10 Za kierownicą. 17.30 Niedzielny zarobek — nowela filmowa ang. 18.00 Studio Olimp. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Kroki — nowela film. ang. 20.55 Studio Olimp.

**Niedziela 1.VIII.** 6.30 Tech. Rol. 6.50 Tech. Rol. 7.10 Przyp., radz. 7.20 Nowocz. w domu i zagrodzie. 7.45 Bieg po zdrowie. 8.00 Wiad. sport. 8.05 Pr. dnia. 8.10 Antena. 8.30 Kino Najmłodszych. 9.00 Studio Olimp. 11.30 Ostatni wolni Indianie. 12.05 Dziennik. 12.25 Jarmark pieśni i tańca — MIELEC 76. 13.05 Studio Olimp. 16.20 Los. Duż. Lotka. 16.35 Uśmiech i piosenka. 17.20 Jesienne kwiaty — film fab. TV jugosł. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio Olimp. 20.35 Bajka dla dorosłych. 20.45 Eleonora — film ser. wł. 21.45 Studio Olimp.

**Poniedziałek 2.VIII.** 12.00 Program na dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Kino Zwierzyńca. 17.30 Echo stadionu. 17.55 Pr. public. 18.15 Testament starego mistrza — film ser. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: C. Goldoni — „Łgarz". 21.50 Świadkowie. 22.10 Dziennik. 22.25 Polihymnia na wakacjach.

**Wtorek 3.VIII.** 12.00 Program na dzień dobry. 12.30 Eleonora — film ser. wł. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lektury Pegaza. 17.20 Na wielkim i małym ekranie. 17.45 Reportaż film. 18.15 Studio Tel. Młodych. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Sekret — film fab. pol. 21.40 Interstudio. 22.25 Dziennik. 22.40 Pr. public. kult.

**Środa 4.VIII.** 12.00 Program na dzień dobry. 12.30 Sekret — film fab. pol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Popołudnie Najmł. 17.40 Los. Mał. Lotka. 17.55 Godzina prof. Karola Estreichera. 18.45 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 W starym kinie: „Jego wielka miłość" — film arch. pol. 21.40 Dziennik. 21.55 Pr. public. międzynar. 22.30 Gdzie moja miłość — spotkanie z Wandą Polańską.

**Czwartek 5.VIII.** 12.00 Program na dzień dobry. 12.30 Trzpiotka — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 TELEFERIE. 18.15 Komputery — rep. film. 18.40 Pr. public. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Podróże detektywa — film ser. ang. 21.10 Pegaz. 21.55 Dziennik. 22.10 Pr. muz.

**Piątek 6.VIII.** 12.00 Program na dzień dobry. 12.30 Podróże detektywa — film ser. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Z pierwszą pomocą. 17.30 Ocalić od zapomnienia. 18.10 Przez maskę płetwonurka — film dok. franc. 18.40 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Pr. public. 21.45 Dziennik. 22.00 Dobry wieczór — tu Łódź. 23.15 Wiecz. Kino Letnie.




**Piątek, 30.VII** — 8.15 Koncert muzyki ludowej. 9.00 Igrzyska Olimp. 16.15 Igrzyska Olimp. 17.20 Pr. muz. 19.30 Igrzyska Olimp.

**Sobota, 31.VII** — 7.30 Pr. dla dzieci. 8.15 Pr. muz. 9.00 Igrzyska Olimp. 12.00 Koncert. 13.05 Pr. dla dzieci. 16.15 Igrzyska Olimp. 21.00 Koncert.

**Niedziela, 1.VIII** — 9.00 Igrzyska Olimp. 11.00 Film dok. 11.20 Koncert. 13.30 Koncert. 14.25 Filmy anim. 16.15 Igrzyska Olimp. 19.30 Koncert.




**Białowieża** Peppino podbija Amerykę — wł. 3—4. Cezar i Rozalia — fr. 5—6. Mazepa — pol. 7—8.

**Czeremcha** Szczęśliwego Nowego Roku — fr. 3—4. Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 7—8.

**Czyże** Yuriko moja miłość — radz. Nona — buł. 4—8.

**Dubicze Cerkiewne** Kalina Czerwona — radz. Drogi do ojczyzny — pol. 4—8.

**Gródek** Peppino podbija Amerykę — wł. 7—8.

**Kleszczele** Mania wielkości — fr. 3—4. Jak utopić doktora Mraczka — czes. 5—6. Obrazki z życia — pol. 7—8.

**Michałowo** Grzeszna natura — wł. 3—4. Yuriko moja miłość — radz. 5—6. W te dni przedwiosenne — pol. 7—8.

**Mielnik** Pamiętne lato — radz. 4. Mrożony papermit — hisz. 7—8.

**Narewka** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. Kes — ang. 4—8.

**Nurzec** Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 3—4. Bilans kwartalny — pol. 5—6. Znikąd do nikąd — pol. 7—8.

**Orla** Dziewczęta jak iskry — węg. Tomcio Paluch — fr. 4—8.

**Rajsk** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 4—8.



B.Z.Graf. Zam. 1692. F-2

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 211 2

## А МЫ ЎСЁ СКОРЫМ...

Цягнік мчыцца, дрэмлюць ў вагоне,
І здаецца нічога, ніштo...
Ды глядзіш — зоры кінуў ў пагоні,
Месяц рэжа начное нутро.

То сыпне серабром ён на нівы,
То нырне з высаты у раку,
То на голаў маркотнае івы
Суцяшальна паложыць руку.

То па сонных заскача вакзалах,
То схаваецца ў дымных шатрах,
То як ў гуслі ударыць па шпалах,
Прысеў на стальных буферах.

І, здаецца, тым танцам шалёным
Ды чароўнаю сілай святла
Запаўняе зямныя салоны,
Каб спыніць хуткі бег цягніка.

Гэта ж скоры. Пустыя старанні.
Не пісаць, брат, законаў яму!
Дана нам па сустрэчы й расстанні...
Два прыпынкі даліаднаму...

І пакуль твая сіла, рагаты,
Ты б лепш ў сэрца людское зірнуў
І імгненне, да роднае хаты
Хоць на міг, адзін міг бы пусціў.

**М. Шаховіч**

## СТОП!!!

*У рацэ аўтамабіляў*
*шалёнай аўтастрады*
*вар'яцеюць лічыльнікі,*
*калі ўсё болей і болей*
*прыбаўляем газ...*

* ✻ *

*Кожнае адкрыццё*
*родзіць без канца*
*увесь час новае, ды новае...*
*Няма ужо першародных,*
*хоць ёсць байструкі...*
*Натоўпы акушэрак*
*уважліва чакаюць —*
*для ранніх інкубатары...*

* ✻ *

*Плаціны...*
*Вежы...*
*Коміны...*
*Бязрыбныя воды...*
*Смуродныя блакіты...*
*„Смогі“ і дэцыбелі...*
*Агрэгаты і акцэлятары...*
*Зрэнкі радараў і шчупальцы*
*ласераў...*
*Супер — датчыкі...*
*Супер — рухавікі...*
*Імкненне!!!*

* ✻ *

*Прытаёныя пад зялёным сукном*
*выбухі...*
*Ціхацёмная армія ва ўмяшчальніках...*
*Трэск лічыльнікаў Гайгера...*
*Дрыжанне, грукат зямлі...*
*Успышкі неба...*
*Ашалеласць!!!...*

* ✻ *

*На цэнтрыфугах*
*маладыя касманаўты,*
*ў экіпіроўцы XX века,*
*практыкуюць у перагрузках,*
*ну, а ў мяккіх крэслах*
*старыя „глобтрэтэры“,*
*у мінулавечнай вупражы,*
*насміхаюцца з бязважкасці,*
*каб з дурной цікавасцю малышоў*
*таптаць бруднымі ботамі па сталі*
*і клікаць: „Неба!...“*
*або: „Im Laufschritt marsch!”*
*Смех!!!*

* ✻ *

*Пацiскаеш плячыма —*
*усе ведаюць ўсё!*
*А ку-ку!*
*Імчыце, пакуль не прамчыце!*
*Час!!!*

* ✻ *

*Тоны паперы ў рэцэптах,*
*Мільярды пілюлькаў, ампулкаў —*
*здароўе ў парашку і вадкасці —*
*бязглуздзіца...*
*Спакойны шум кардыяграмаў,*
*энцыфалографаў*
*і рытм маятніка*
*ў адвечным гадзінніку:*
*Цік... так... цік... так...*

* ✻ *

*У салоным, кіслым поце*
*рэфлекс задуменнасці...*
*Як рубінава пляма крыві —*
*Чырвонае святло —*
*Стоп!!!*

**Багдан Смыла**

## МАЛЬВІНА І ДЗЯЎЧЫНА

Сустрэў я дзяўчыну,
як краску, маліну,
на вуліцы Першага Мая...

З-за яе я Мальвіну
сваю б нат пакінуў —
яна ж дзе-куды не такая!..

На твары жывыя
агні маладыя,
а вочы сінеюць, як мора...

Як гляну, хвалююць
парывы людскія,
хоць мне ўжо хутка за сорак...

Як больш прыглядаўся,
дык проста злякаўся,
чаму валасы ўжо сівыя...

Падумаўшы трохі,
я шчыра прызнаўся —
ў Мальвіны яшчэ не такія...

Ды так незнарокам
я глянуў на вока —
яно ж ужо там зелянее...

Мая жа Мальвіна
заўсёды пад бокам —
ды толькі загарам цямнее...

Яшчэ для навукі
я гляну на рукі,
бо ногці даўжэзныя мае...

Навошта мне гэта
такія парукі,
йшчэ можа калі задрапае?..

Таму я Мальвіну
сваю не пакіну —
жыць з ёю мне неяк складзецца:
хоць моды не знае,
я з ёй не загіну
і з ёю жыць буду, здаецца...

**У. Шклярук**

## ДАРОГА ЖЫЦЦЯ

*Ведаеш, бацька, дзяліцца не будзем*
*Крывой баразною — скарынкай вясны.*
*Пакінем спрачацца, хай ведаюць людзі,*
*Мацней на дарогу мяне абнімі!*

*Пайду, панясу свае бровы-калоссі*
*Ад родных палёў і знаёмых мясцін.*
*Не раз запячэ тая сумная восень,*
*Не раз набяжыць дарагі успамін.*

*Я з хваляй жывой гарадскога прыбою*
*Пайду пераблытанай сцежкай агнёў.*
*Ты будзеш заўсёды у думках са мною,*
*Ты будзеш жывых берагчы маіх сноў.*

*Ды хоць па начах я ў полі араты,*
*А раніцай будзіць пахучы пракос,*
*Мне ўжо не вярнуцца да роднае хаты,*
*Я тут астануся — так вырашыў лёс.*

**Л. Танкевіч**

* ✻ *

Велізарная
ступня
прыкрыла
дваццаць
год
пальцамі
сягаючы
наступнага
разрастаецца
уздоўж
і ўпоперак
з кожнаю
хвілінай
а вочы
вогнікамі
палаюць
за кіпучую
кроў у венах
і непахісны
бой
за ядроную
раніцу

**„Ваву“**

* ✻ *

я вцале нэ е сільна
Я туолько змагалась
зэ слабшым
в тоуй самоуй сытуацыі
знайдэцьця завшэ
хтось сільнійшы
од мэнэ
окляскуе мэнэ
1000 відзув
1000 выгравшых
1000 програвшых
то я
всіэм вытэсала
ласкі под'юм куткі
і сама забардзо
наміэсьцях
а тэпэр
трэба тіэшытісь

**З. Сачко**

* ✻ *

*Брыдзем у вечнай разлуцы*
*злучаныя адлегласцю*
*павуціннем рассnаваным на*
*травах*
*верыць — не верым*
*словам*
*пытаем*
*— варта будзіць надзеі*
*салодкія —*
*а заўтра*
*замкнутае ў марах*
*адкрые*
*горыч*
*а сабе*
*томімся ігрою слоў*
*зразумей*
*мора ніхто не засыпле*
*не сустрэнемся*
*расказаць*
*да канца*
*пачатак дня*

**Вераніка Леанюк**

* ✻ *

*Зазелянела ты залугавела*
*зрабілася паўпесняй паўтравою*
*і зазвінела ты*
*і заквітнела*
*іду з табою як з вясною*
*і чую ў сэрцы шчасце смех*
*ажыццяўляюцца надзеі*
*а грудзі нібы поля шыры*
*такая ў іх магутнасць шчырасць*
*што ўзяў бы*
*і зямлю абняў бы*
*як хлеб даваў бы добрым*
*людзям*
*зазелянела ты*
*і заквітнела*
*пайду з табою да крыніцы*
*каб шчасце нам не пераспела*
*каб ты заўсёды маладзіца*
*так як сягоння лугавела*

**Алесь Барскі**

## АДНА ПРАЎДА

Калі хтось плача
не пытай чаго
Калі яму
на душы
цяжка вельмі
нейкая горыч
у сэрцы сядзіць
калі яго крыўда
якаясь спаткае
Плача
хаця... можа ён
і хацеў бы затрымаць
упартыя слёзы
Тады ён
не заўсёды
табе скажа
адкуль слёзы горкія
бяруцца
адкуль гэтая горыч
у сэрцы
і нянавісць да свету
цэлага
адкуль злосць да нявінных
і скрыўленыя жалем вочы
зубамі сціснутыя губы
Лепш не пытай
чаго ён плача
што сталася
хто пакрыўдзіў
не пытай не пытай
Плакаць ён перастане
Можаш верыць напэўна
не будзе плакаць бяспынна
А што ўнутры душы схаваецца
адзін мінус для свету
а другі для жыцця і людзей —
Гэта праўда таксама

**І. Баравік**

## СЕНАКОС

*Сенакос,*
*ці гэта праўда?*
*Я не веру,*
*каб магчымым*
*было*
*сена касіць.*
*Сенакос —*
*можа быць*
*названая пара,*
*калі ўсе гаспадары*
*травакосам*
*займаюцца.*
*Сенакос —*
*гэта слова*
*замяніць*
*было б можна*
*словам*
*прыгажэй усіх —*
*„сеназбор“.*
*Аднак мы — людзі*
*прынялі*
*слова гэта*
*на ўсе*
*часы.*
*Ну, і сенакос,*
*дык*
*сенакос...*

**Ніна Гаўрылюк**

**Багуслаў Пэзовіч**

## ЖНІВО

я не ведаю дзе шукаць цябе
рыбін пузыр ты
з дыханнем прыціснутым
драбінаю рэбраў
сінтэз супрацiўнасцяў усялякіх
з усмешкай падклееннай ты

твая белая сукня
твая чорная сукня
мая
табе ж я абыякім

рэлігіі не далі табе месца
ні ў небарадасці
ні ў страшнапекле

шэрая ты
каркаеш воранаю ў верхавінах
ветру
або шахацiш лістападдзем

медаленосная ты
поўзаеш у скавытанні
біда дурному
а мудраму крышка са стала
нежывым нарадзіны
жывым аборт

ты жывеш пасрэднасць
і невядома дзе шукаць цябе

*Пераклаў з польскай*
*Сакрат Яновіч*

# ФАЛЬКЛОРНЫЯ РЫБАКІ

Дамовіліся на першае ліпеня ў Баброўніках. Пагода як на заказу, перапоўненая ліпнёвымі промнямі летняга сонца. Месца таксама цудоўнае. Пад бокам рака Свіслач, лес. Паветра чыстае-чыстае, з араматам падсохшага сена. Замкнуўшы ў сесіі, быццам бы ў торбе, усе свае трывогі і радасці і пакінуўшы іх разам з залікавымі кніжкамі ў сакратарыятах сваіх інстытутаў, прыехалі яны ў гэтыя цудоўны куток Беласточчыны і адпачыць і папрацаваць.

На беларускай філалогіі гэта ўжо традыцыя. З году ў год, і заўсёды амаль у гэты час, арганізуюцца так званыя фальклорныя лагеры. Як вядома, фальклор — такая цудоўная галіна літаратуры, з кожным днём становіцца ўсё бяднейшым ды бяднейшым. Жывым пераказаць яго наступным пакаленням мы не зможам. Адзіным выхадам з'яўляюцца запісы. Вось студэнты і ўзялі на сябе частку гэтага. Пад наглядам кіраўніка беларускай кафедры доктара Аляксандра Баршчэўскага, які шмат сваёй творчай працы прысвяціў фальклору, ужо некалькі добрых год падрад з усімі патрэбнымі прыладамі наведваюць яны беластоцкія вёскі.

У гэтым годзе распачалі ад Баброўнікаў, дзе прабылі палову прызначанага на гэта часу, гэта значыць пяць дзён. Людзі тут ветлівыя. Прынялі вельмі гасцінна. Уладзілі начлег. Солтыс Міхась Цацэрка і яго жонка Соня аддалі ў распараджэнне на гэты час сваю хату, што пуставала на скраю вёскі. Было каля пятнаццаці асоб. Не, гэта неабавязкова, каб усе студэнты былі з беларускай філалогіі. Проста тыя, каго цікавіць беларускі фальклор. Падборку вёў студэнт пятага курса Павел Гілеўскі, які быў адказны за цэлую групу перад кіраўніком. Фінансава абяспечыў Інстытут русістыкі Варшаўскага універсітэта.

Але можа крыху пра нашых рыбакоў фальклору. Як успаміналі, у Баброўніках правялі яны пяць дзён. Не ўвесь час там сядзелі. Баброўнікі былі толькі базай. Адтуль рабілі пешаходныя экскурсіі ў другія вёскі. Вось хаця б у Крушыняны. Гэта толькі адзін прыклад. Аднак не вечна ж сядзець у адной вёсцы. Час быў змяніць ваколіцу, і перабрацца ў Скраблякі, дзе прабылі да канца лагера. Запоўніўшы часткова песнямі, часткова казкамі стужкі, павярнулі дамоў.

Шмат назбіралася ўжо фальклору. Час падумаць, што з ім рабіць. Не ляжаць жа яму абы толькі ляжаць. Не на тое яго збіралі. Чаму ж бы не выдаць нейкага зборніка з беларускімі песнямі або казкамі? Была б гэта напэўна карысная рэч.

**М. Шаховіч**

# ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




*Над цэрквою хмара,*
*ў цэркоўцы діток пара:*
*обое роўнюсенькі,*
*як лебедь, белюсенькі.*

Ад Марці Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# СУСТРЭЧА З АКТЫВАМ



*Удзельнікі сустрэчы.*

Нядаўна адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ Мікалая Самоціка з актывам БГКТ з раёна Мілейчыц.

Сустрэліся ў новым прыгожым будынку пажарнай рамізы. І нездарма тут. Супрацоўніцтва членаў і актывістаў БГКТ з добраахвотнай пажарнай камандай у Мілейчыцах працягваецца ўжо не першы год. Дарэчы, цяжка нават называць гэта супрацоўніцтвам членаў дзвюх арганізацый: гэта ж тыя самыя людзі, члены БГКТ, з'яўляюцца членамі пажарнай каманды.

Аб супрацоўніцтве можна разважаць у сэнсе кантактаў паміж Галоўным праўленнем БГКТ і Ваяводскім праўленнем Саюза добраахвотных пажарных каманд.

Саюз добраахвотных пажарных каманд, апрача сваёй галоўнай справы — забеспячэння і аховы людскога дабра ад пажару, шмат увагі прысвячае пашырэнню культуры, развіццю мастацкай самадзейнасці, арганізуе шматлікія конкурсы, фэстыны, забавы.

І вось у гэтым пункце, пункце развіцця культуры ў нашай вёсцы, і сутыкаюцца інтарэсы гэтых дзвюх арганізацый.

Думкай аб добрым і карысным супрацоўніцтве была пранізана сустрэча з актывам. Апрача старшыні ГП БГКТ на сустрэчы прысутнічаў прадстаўнік Ваяводскага праўлення ОСП Рышард Гратоўскі, мясцовыя ўлады на чале з першым сакратаром гміннага камітэта партыі ў Мілейчыцах Віталісам Лубам і начальнікам гміны Мікалаем Бартнічуком. Прысутнічаў таксама першы сакратар гміннага камітэта партыі ў Нурцы-станцыі Яўгень Шышко, вядомы ў гэтым раёне дзеяч БГКТ.

Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік увёў прысутных у штодзённыя справы нашага таварыства, прыгадаў аб сёлетнім юбілеі БГКТ і звязаных з гэтым новымі заданнямі, аб ролі „Нівы" ў жыцці і працы нашай арганізацыі, шмат месца прысвяціў добрай працы мілейчыцкага актыву, падкрэсліўшы адданую працу ўсіх членаў БГКТ для развіцця нашай краіны. Звяртаючыся да актывістаў, з раёна Мілейчыц, старшыня заклікаў іх больш паўсюдна развіваць мастацкую самадзейнасць, асабліва фальклорнага тыпу, для паглыблення і аднаўлення народных песень, звычаяў і традыцый.

За адданую працу і грамадскі пачын дзесяць актывістаў з раёна Мілейчыц было ўзнагароджана ганаровымі медалямі. Медаль „Заслужаны для Беласточчыны" атрымалі Мікалай Бартнічук і Марцін Пахвіцэвіч з Мілейчыц і Анатоль Косцюк з Нурца-станцыі. Медаль „За заслугі для пажарніцтва" атрымалі Аляксандр Косцюк з Рагачоў і Мікалай Мікалаюк з Клюковічаў. Медаль „20-годдзя БГКТ" атрымалі Яўген Шышко з Нурца-станцыі, Міхась Волчук з Сямяціч, Мікалай Дудар з Паліднай, Міхась Вішанка з Мікуліч і Іван Вішанка з Мілейчыц.

Медаль „20-годдзя БГКТ" атрымаў таксама калектыўна Ваяводскага праўлення Саюза добраахвотных пажарных каманд. Прыняў гэту ўзнагароду ад імя сваёй установы Рышард Гратоўскі.

Сустрэча закончылася сяброўскімі размовамі аб канкрэтных справах БГКТ і асяроддзя, аб агульных справах і інтарэсах нашага грамадства.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# НАЧАЛЬНІК ПАЖАРНАЙ КАМАНДЫ

У вёсцы Мокрае (гміна Бельск) начальнікам добраахвотнай пажарнай каманды з'яўляецца Іван Валасюк. Ужо больш як 15 год ён належыць да пажарнай каманды. Не так даўно атрымаў ён медаль 15-годдзя пажарнай службы.

У Валасюка пабудаваны па-сучаснаму млыне — „сьрутоўніку", які на працягу 10 мінут змолвае больш аднаго цэнтнера збожжа. Крайззгай пілуе дровы, а нават і дошкі. Да жніва Іван Валасюк ужо падрыхтаваў снопавязалку, якую падчэпіць да трактара і будзе касіць збожжа.

Іван Валасюк залічваецца таксама да перадавых гаспадароў вёскі, да тых, якія маюць свой уласны трактар і шмат іншых сельскагаспадарчых машын, пры выкарыстоўванні якіх значна аблягчаецца сялянская праца. Вось, напрыклад, трэба змалоць асыпкі, ці мукі. З гэтым не трэба нікуды ехаць. Гэта робіць ён за некалькі мінут у сваім уласным му гаспадарчым будынкі, у якіх 15 свіней, 5 дойных кароў, конь і шмат курэй. Кожны год прадае ён дзяржаве не менш 4 кормнікаў, шмат яек і кожны дзень па 50 літраў малака, а таксама закантрактаванае збожжа і бульбу. Рыхтуецца Валасюк са сваёй працавітай жонкай да пабудовы новага, мураванага дома. (мх)

### КАЛІ БАЦЬКІ Ў ПОЛІ...

Жніво. Сяляне маюць многа работы ў полі. А вось клопат, куды падзець дзяцей. Вядома, дзіця дабярэцца да запалак ды наробіць пажару... Бяда не чакае.

Іменна таму ў Юшкавым Грудзе (гміна Шымкі) пры дапамозе міхалоўскага СКР арганізавалі вясковы дзіцянец у пустуючым летам школьным будынку. Займаюцца ім мясцовая настаўніца Валянціна Кардаш і маладая выхавацельніца Эва Касацкая. Дзеці вельмі добра адчуваюць сябе ў летнім дзяцінцы. У сонечныя дні загараюць на сонцы, ходзяць у лес за ягадамі, гуляюць у розныя гульні. Маюць яны розныя цікавыя цацкі і многа кніжак з каляровымі малюнкамі. У свабодны час слухаюць казкі і апавяданні або, пасеўшы наўкруг, співаюць. У такой дружнай і вялікай сям'і вельмі цікава і хутка праходзіць час. У дзяцінцы даюць смачныя абеды, якія варыць ім Барбара Грыц, таксама з Юшкавага Груда.

А ў той час іх бацькі працуюць у полі. Яны й забыліся, як у мінулыя гады забіралі дзяцей з сабою ў поле. У спёку малым хочацца то піць, то есці, або ўжо чым хутчэй дадому. Бо так ужо з малышамі бывае. (ця)

### ДУБРОЎСКІ МЕРКУРЫЙ БАГАЦЕЙШЫ

У апошнія гады ў Дуброве пабудавана шмат гандлёвых і паслуговых павільёнаў. Нядаўна яна ўзбагацілася на два новыя прасторныя гандлёвыя дамы, пабудаваныя мясцовай ГС. Іх плошча роўная плошчы ўсіх дагэтуляшніх дуброўскіх крамаў. Для горада і ўсёй гміны гэта важны прыбытак. У гэтых памяшканнях усе тавары эстэтычна раскладзены. У іх густоўныя вітрыны. (ця)



*Над ракою Нарвай ля Войшак.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

SEWERYN KRAJEWSKI



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

Заказвалі *Ірэна Янацюк і Яся Зіневіч з Бельска.*

 **Кансультацыя юрыста** 

ПЫТАННЕ: Ад 1951 да 1965 года Б. працаваў у гмінным кааператыве. Пасля перайшоў на гаспадарку жонкі, якая мае 7 га. У апошні час ён хварэе і працаваць не можа. Жонка таксама хваравітая і весці гаспадарку не можа. Ці прыслугоўвае Б. інвалідская пенсія? Ці могуць яны аддаць гаспадарку дзяржаве за пенсію?

АДКАЗ: Каб атрымаць інвалідскую пенсію па хваробе, трэба мець прынамсі пяць год працы на працягу апошніх дзесяці год, пры гэтым праца павінна кончыцца не пазней, чым паўтара года перад тым, як Б. стаў няздольным да працы. У нашым прыкладзе гэтыя патрабаванні не споўнены, бо хаця Б. працаваў значна больш, чым пяць год, то праца адбывалася не на працягу апошніх 10 год, а закончылася ў 1965 годзе. Таму інвалідская пенсія Б. не прыслугоўвае.

Што датычыць пенсіі за зямлю, то права на яе прыслугоўвае, калі ўласнік гаспадаркі ва ўзросце пенсіянера, г.зн. мужчыне 65 год, а жанчыне 60 год, або з'яўляецца інвалідам I ці II групы. Калі жонка Б., якая з'яўляецца ўласнікам гаспадаркі, адпавядае гэтым умовам, то можна было б аддаць гаспадарку за пенсію.

**Куток практычных ведаў**



**ДОМ ВЯСЦ: НЕ ЗАДАМ ТРАСЦ!**

# Парашок „ІКСІ"

Сёння ў магазінах можна атрымаць ужо розныя віды парашку „Іксі": парашок, пасту, гранулкі, вадкасць і мыла.

Не адна гаспадыня думае: якая ж між гэтымі відамі розніца і якія для чаго прадназначаны, чаму адзін раз парашок белы, другі — блакітны, чаму раз у картоне, другі раз — у бутэльцы.

Трэба памятаць, што:

„Іксі" ў картоне (блакітны парашок, блакітныя гранулькі, белы парашок) прадназначаны ў асноўным для мыцця ўсёй бялізны. Гэта нічога, што ў іх розны колер ці іншы нумар на ўпакоўцы. Проста кожная фабрыка, выпускаючая парашок „Іксі", мае крыху іншае абсталяванне, і таму менавіта парашок выглядае па-рознаму. Нягледзячы, аднак, на гэтую розніцу, аднолькава добра распускаецца ён у вадзе (гранулькі — крыху даўжэй), не пакідае асадку і вельмі моцна пеніцца. Але пена не заўсёды патрэбная. У сціральнай машыне, напрыклад, лепш каб яе не было. І таму менавіта выпускаецца таксама малапенячаяся паста і вадкасць „Іксі".

Вадкасць „Іксі" прадназначана перш за ўсё для вялікай сціркі. Мачыць у ёй бялізну можна толькі паўгадзіны (у крайніх выпадках гадзіну). Вадкасцю „Іксі" нельга мыць шарсцяных рэчаў і рэчаў з натуральнага шоўку.

Невялікае мыльца „Іксі" блакітнага колеру таксама выкарыстоўваецца выключна для мыцця бялізны. Нельга мыць ім рукі, а ўжо ў ніякім выпадку твар.

Ужываючы прыведзеныя вышэй сродкі для мыцця бялізны, неабходна ўсё ж пастаянна памятаць, што яны:

— хутка мыюць, але цяжка спалоскваюцца, дык пасля іх трэба бялізну паласкаць некалькі разоў;

— аблягчаюць працу, але нішчаць рукі, таму пасля мыцця бялізны пры дапамозе „Іксі" трэба добра памыць рукі звычайным мылам, а пасля гэтага выцерці іх насуха і змазаць крэмам;

— ужываць „Іксі" трэба ў прапорцыях, пададзеных на ўпакоўцы, паколькі большая яго колькасць не павялічвае яго мыючых якасцей;

— у малых дозах „Іксі" можна дадаваць таксама да вады пры мыцці дзвярэй, падлогі, вакон, але заўсёды трэба памятаць аб паласканні;

— ваду пасля мыцця бялізны пры дапамозе „Іксі" нельга выліваць на зямлю, калі хочам, каб там штосьці расло.

**Гаспадыня**

**ВЕР-НЕ ВЕР**

Астроне, уся наша сям'я жыве ў вялікім непакоі. Сын здаваў экзамены на палітэхніку. Конкурс вельмі вялікі, і таму, хаця хлопец наш даволі здольны, мы ўсе баімся, ці ўдасца яму паступіць. І атакуюць нас усіх розныя сны. Можа яны штосьці б нам сказалі.

А сны былі такія. Сыну прыснілася адразу пасля экзаменаў (быў вельмі знерваваны), што быў на нейкім пахаванні каля сваёй школы. Бачыў у труне нябожчыка і вельмі плакаў.

На другі дзень сыну прыснілася, што хадзіў ён па могілках.

Мужу таксама сніўся не вельмі прыемны сон. Быццам быў ён у нейкім акварыуме, дзе плавала мноства рыб, былі яны надта жывыя, юркія, а адна яго нават укусіла.

А мне снілася, што ў руках я трымала вельмі прыгожы букет: гваздзіка і герберы. Раптам бачу: гваздзіка завяла. І я пачала яе выкідаць. Думала: прапаў мой букет. Ажно бачу: засталіся прыгожыя і здаровыя герберы, і букет ізноў прыгожы.

Астроне, што будзе з нашым сынам, ці паступіць ён?

Антаніна З.

Цяжка мне адразу адказаць, ці паступіць. Справу вырашыць здольнасць вашага сына. Але сны добрыя. Быў ён нібыта на пахаванні, дык значыць — будзе весяліцца. Плакаў — чакае яго сямейная радасць (а гэта ж напэўна будзе, калі ён паступіць). Хадзіў сын па могілках — чакае яго здароўе і поспех у справах.

Мужу вашаму снілася жывая рыба, якая абазначае цяжкі, але выгодны занятак. А гэта ж не што іншае, як зданне экзаменаў з добрымі вынікамі.

Вам жа прысніўся букет, у якім некалькі кветак завяла, дык напэўна будзеце моцна перажываць. Але ж засталіся жывыя і здаровыя герберы! Так што сын ваш ужо, бадай, стаў студэнтам, і ўсе вашы апасенні былі непатрэбныя.

**Астрон**




Як толькі распачаліся канікулы, я паехала ў лагер. А ў Гайнаўцы астаўся мой хлопец, з якім я ўжо хадзіла амаль год. І вось у лагеры я атрымала пісьмо ад сяброўкі, якая пісала аб маім хлопцу. Піша, што ў Гайнаўку прыехала нейкая дзяўчына. Як толькі яна там з'явілася, Генек адразу зацікавіўся ёю, штодзень разам ходзяць. Спачатку не хацелася мне верыць, але калі ўжо столькі часу не атрымала ад Генка пісьма (абяцаў пісаць часта), я задумалася. Бадай, Генек не стрымаў свайго слова, якое даў перад маім ад'ездам. Аднак, нягледзячы на ўсё, я хацела далей з ім хадзіць. Не маю магчымасці з ім убачыцца на канікулах, спаткаемся аж у школе. Але не ведаю, як тады сябе паводзіць. І яшчэ адна справа. Да мяне тут таксама пачаў прыходзіць хлопец. Ён прыехаў з горада на канікулы да сваіх сваякоў. Ён нават прыгажэйшы за Генка, я некалькі разоў з ім пасядзела. Зрабіла гэта толькі таму, што даведалася, як паступае Генек. Але ўсё ж Генка забыць не магу. Сяджу з гэтым, а думаю аб тым. Ужо разгубілася, не ведаю сама, што рабіць, ці ўжо больш не спатыкацца з ім? Зрабіла б гэта, каб ведала, што Генек яшчэ вернецца да мяне, але калі не, дык хай бы быў гэты. Як паступіць, парай, Сэрцайка!

Расчараваная Аля

Аля, гонячыся за двума зайцамі, можна ніводнага не злавіць. Гэты хлопец будзе толькі на канікулах, потым паедзе, але на ўсялякі выпадак не зрывай з ім. Весялей табе будзе. А пачнецца школьны год, дык справа выясніцца. Можа твая сяброўка і пераўвялічыла справу. Калі прыедзеш у Гайнаўку і спаткаеш Генка, дык паводзь сябе так, быццам нічога не здарылася. А пакуль будзь добрай думкі, школьны год не так далёка.

**Сэрцайка**

**Ці ведаеце, што...**

...у нашай краіне трускалкі Сэнга-Сэнгана, званыя таксама Фаварыткай, займаюць 80% усёй плошчы, адведзенай пад трускалкі.

...у нашай краіне трускалкаводы ў сярэднім збіраюць ад шасці да васьмі тон гэтай смакавітай ягады з 1 гектара зямельных угоддзяў. Аднак ёсць і такія, якія збіраюць 12 і 16 тыс. кілаграмаў з гектара.

...у нашай краіне ў сярэдніх і прафесіянальных школах займалася 2 мільёны вучняў.

...сёлета ў Польшчы вучобу ў агульнаадукацыйных ліцэях закончыла 109 тысяч вучняў.

...у новым навучальным годзе ў нашай дзяржаве пачне вучыцца ў першых класах агульнаадукацыйных і прафесіянальных школ каля 560 тысяч вучняў, якія ў чэрвені гэтага года закончылі вучобу ў пачатковых школах.

...у горадзе Беластоку дзейнічае 230 крамаў з прадуктамі і прамысловымі таварамі і больш 60 бараў, рэстаранаў і сталовых.

(ця)




Надзвычайныя паўнамоцтвы для барацьбы з партызанскім рухам атрымаў і інспектар польскай арміі, камандуючы віленскай ваеннай акругі генерал Рыдз Сміглы. Ён узначаліў утвораны пры генеральным штабе спецыяльны аддзел „для кіраўніцтва аперацыямі на ўнутраным беларускім фронце".

Аддзелу падначальваліся не толькі ўсе воінскія часці, размешчаныя на тэрыторыі Заходняй Беларусі, але і паліцыя. Пастаянную дапамогу генералу аказвала, зразумела, і віленская экспазітура разведвальнага аддзела генштаба. Яе начальнік капітан Маер з Варшавы атрымаў строгі загад: усе намаганні агентуры накіраваць на тое, каб знайсці Муху і яго партызан.

Рыдз Сміглы развіў бурную дзейнасць: склікаў нарады воінскіх камандзіраў і паліцэйскіх начальнікаў, інспектаваў карныя падраздзяленні, разглядаў планы ліквідацыі партызанскага руху і планы асобных супрацьпартызанскіх аперацый. У кожным плане асабліва падрабязна распісваліся мерапрыемствы па знішчэнні няўлоўнага і страшнага для паліцыі, памешчыкаў і асаднікаў Мухі-Міхальскага. Многіх і многіх чыноўнікаў Муха пазбавіў сну: яны баяліся яго, і ў той жа час як ім хацелася атрымаць 15 мільярдаў марак!

Планы прымаліся, па іх праводзіліся шматлікія аперацыі, а Муха, як і раней, быў няўлоўны і наносіў новыя ўдары па пастарунках у самых, здавалася б, нечаканых месцах.

І тады капітан Маер прапанаваў генералу Рыдзу Смігламу выкарыстаць супроць партызан Мухі-Міхальскага „бацьку" Балаховіча і яго „сынкоў".

— Чым абгрунтавана ваша прапанова? — спытаў генерал.

Пытанне не было нечаканае для капітана. Ён расказаў генералу пра тое, што яго экспазітура шырока карыстаецца паслугамі балахоўцаў — вярбуе з іх шпіёнаў, дыверсантаў, што агентамі двуйкі з'яўляюцца не толькі сам „атаман" Балаховіч, але і яго памочнікі — палкоўнік Жгун, Голубеў, Елін, Гаварухін, Аскілка, галавар „Зялёнага дуба" Дзяргач.

— Яны дапамагаюць нам, але гэта мала. Мая прапанова заключаецца ў тым, каб сфарміраваць з балахоўцаў і пад кіраўніцтвам самога Балаховіча спецыяльныя воінскія падраздзяленні для барацьбы з Мухам, — развіваў сваю ідэю Маер.

Капітан стараўся. Яму вельмі хацелася, каб генерал уважліва выслухаў, прыняў прапанову. Ён сам, праўда, не зусім быў упэўнены, што Балаховіч са сваімі „сынкамі" зможа расправіцца з Мухам. Але не гэта было галоўнае. Капітан думаў пра сябе, пра сваю будучыню, пра кар'еру. Пасля арышту мінскімі чэкістамі ў жніўні 1924 года Барыса Савінкава службовае становішча Маера, якое да гэтага, здавалася, было трывалае і перспектыўнае, рэзка пагоршылася: яго пастаянна лаяла начальства, над ім вісела пагроза звальнення. Нават падначаленыя афіцэры, якія раней падлізваліся, ва ўсім хвалілі свайго начальніка, цяпер стараліся пазбягаць яго, падазрона шушукаліся з яго намеснікам капітанам Секундай. Для Маера не было сакрэтам, што зайздрослівы і недалёкі Секунда цэліць на яго месца, месца начальніка экспазітуры. А як усё добра было! Якія спакуслівыя перспектывы адкрыліся перад Маерам!

Ледзь не два гады праз „акно" на граніцы паблізу Заслаўя ён паспяхова перапраўляў і сустракаў эмісараў Савінкава. Тады начальства хваліла кемлівасць і разведвальныя здольнасці Маера, ён ставіўся ў прыклад іншым афіцэрам. Але арыштавалі Савінкава — і ўсім стала зразумела, што „акно" праз граніцу кантралявалі не афіцэры экспазітуры, а савецкія чэкісты, што гэта яны вялі аператыўную гульню з польскай контрразведкай. Вінаватых у тым, што чэкісты два гады вадзілі за нос польскіх контрразведчыкаў, было шмат, але хутка Маер з жахам убачыў, што менавіта яго, начальніка віленскай экспазітуры, хочуць зрабіць галоўным вінаватым.

Вось чаму так хацелася, каб Рыдз Сміглы прыняў яго ідэю. У гэтым капітан бачыў сваё выратаванне.

— Ці пойдзе на гэта Булак-Балаховіч? — ужо само пытанне генерала гаварыла пра тое, што Рыдз Сміглы з цікавасцю паставіўся да прапановы Маера.

— У гэтым я не сумняваюся, — не першы раз схлусіў капітан. — І вось чаму. Па-першае, Булак-Балаховіч

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДНІ БЕЛЬСКА



*Новавыбраны на адзін дзень кароль горада прымае рапарт ад начальніка горада.*

У Бельску адбыліся ўрачыстасці з выпадку Дзён горада Бельска. Арганізатарам было Таварыства любіцеляў бельскай зямлі. Горад выглядаў прыгожа. Прыбраныя вуліцы, на дамах сцягі. Тры дні ішло гэтае вясёлае свята. Былі сустрэчы і даклады пад агульным лозунгам „Бельск учора і сёння“. Доктар Ян Ясканіс з Беластока выступіў з дакладам „Старажытная гісторыя бельскай зямлі і яе археалагічныя каштоўнасці“. Мгр Яніна Гасціловіч гаварыла пра архітэктурныя каштоўнасці Бельска і ваколіц. Доктар Зыгмунт Каштыла з музея Войска Польскага з Беластока выступіў з дакладам „Капітан Уладзімір Высоцкі — герой Народнага Войска Польскага — сын Бельскага Падляшскага“.



*Вялікае зацікаўленне ўзбудзілі музыканты.*

Найцікавейшым аднак быў паход перапрапрануты у касцюмы школьнай моладзі, які прайшоў вуліцамі горада.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**

---

вельмі любіць славу. І яму наша прапанова спадабаецца. Па-другое, ён вельмі прагны. І тут, вядома, давядзецца паабяцаць „бацьку“ ладны кавалак за работу яго „сынкоў“.

— Ладны не ладны, але за здарова жывеш супрацьпартызанскія сілы не створыш, — хоць і з неахвотаю, але згадзіўся Сміглы. — А што датычыць Балаховіча, дык ён цяпер, мусіць, самы багаты чалавек у Польшчы: столькі каштоўнасцей вывез з-пад Петраграда, палову Беларусі абрабаваў, мы яму плацім добрыя грошы са сродкаў двуйкі, англічане не крыўдзяць... Колькі ж яму яшчэ трэба?

— Усё гэта так, пан генерал, але неабходна ўлічваць і мінулае, і цяперашняе становішча „бацькі“. — Маер быў яўна задаволены магчымасцю паказаць, што ён ведае пра Балаховіча шмат такога, пра што Сміглы і не здагадваецца. — Булак-Балаховіч прывык са сваёй велізарнай світай жыраваць-балявацъ; ён трапіў з гразі ў князі, і ў яго развіўся непамерны апетыт. Ён жыве ў белым паляўнічым палацы рускага цара ў Белавежы, акрамя атрада ахоўнікаў, акружыў сябе шматлікай прыслугай: дворнікамі, кухарамі, пакаёўкамі. На яго ўтрыманні жыве з паўдзесятка дам у Варшаве і ў некалькіх вёсках.

(Працяг будзе)

---

**Весткі з Нараўкаўскай гміны**

### ДЗЕЦІ АДПАЧЫВАЮЦЬ

Як штогод, для дзяцей з гміны Нараўка ў час канікул быў арганізаваны адпачынак у розных мясцовасцях. І так, у маі кіраваліся дзеці ў цікавыя мясцовасці ваяводства і краіны. У час канікул мела выехаць 116 вучняў. Між іншым, 36 дзяцей было ў гарцэрскім лагеры ў Плянце, 30 — у Беластоку. 20 асоб выршаць прайсці шляхам Ломжа-Візна. Многа расстараліся для сваіх дзяцей працаўнікі мясцовых прадпрыемстваў. Каля 30 вучняў адпачывае на калоніях у розных цікавых кутках краіны.

### КРАМА Ў КРЫНІЦЫ

Жыхары вёскі Крыніца, што ў гміне Нараўка, ужо даволі даўно прасілі, каб адкрылі ў іх краму. Справа вельмі важная, бо ў час палявых работ і вострых зім, людзі мелі вялікія клопаты з пакупкай найбольш патрэбных тавараў.

І вось ГС у Нараўцы адкрыў у Крыніцы краму. Прадаўшчыком стаў Юрка Хадакоўскі. Тут можна купіць найбольш патрэбныя прадукты і прамысловыя тавары першай патрэбы. Жыхары вёскі вельмі задаволены і ўдзячны ўладам гміны, што іх справа добра закончылася.

### ГРУШКІ ЗАЦІКАВІЛІ

У надлясніцтве Броўск у Грушках, гміна Нараўка, ёсць вельмі цікавая паляна ў лесе ля ракі Нараўкі. Тут растуць прыгожыя, старыя дубы, цячэ ручаёк.

Хто бывае ў гэтых ваколіцах, абавязкова едзе на рэчку пад дубы. У гэтым годзе прыехала сюды 240 гарцэраў з Тлушча каля Варшавы. Яны памагаюць пры сенакосах, пры жніве, у лесе. Гэтак тры тыдні. Потым прыедзе наступная група — 100 асоб, а сярод іх моладзь з Францыі.

### КАСЦЁР У ПЛЯНЦЕ

Першы раз у гісторыі гміны Нараўка быў арганізаваны гарцэрскі касцёр у вёсцы Плянта. Тут вельмі прыемны будынак і пляцоўка былой школы. Побач ідзе шаша і чыгуначная станцыя. Блізка крама і прыпынак ПКС, лес і рака.

У такім маляўнічым месцы расставілі палаткі гарцэры гміны Нараўка. 32 асобы. Выгодны адпачынак тыдзень часу. Праграма была вельмі цікавая, але апошні вечар быў найлепшым. Жыхары лагера зацікавіліся жыхары вёскі, якія грамадой прыйшлі на апошні касцёр увечары. Моладзь спявала песні, чытала вершы, расказвала здаровы гумар. Доўга ўвечар гучэлі сярод дрэў Плянты песні беларускія, рускія і польскія.

Дзеці многа адпачывалі над вадою, у лесе, пазналі працу чыгуначнікаў, маглі таксама праверыць саміх сябе, калі стаялі ноччу на варце. Часта ў лагер прыязджалі бацькі.

Варта арганізоўваць больш такіх цікавых лагераў, а за сёлетні варта падзякаваць Яўгенію Янушкевічу і яго памочніку Уладзіміру Савіцкаму, надлясніцтву Броўск у Грушках і ГС-у ў Нараўцы за вялікую дапамогу ў арганізаванні лагера. Варта ў будучыні выкарыстаць гэтае цікавае месца для моладзі з іншых гмін, а таксама і ваяводства.

**Аляксандр Закройшчык**

---

## МАЁ ВЯСЕЛЛЕ




*Спачатку каханне прыйшло лірычнае дурное ціхае*
*і мяне з сабой панясло ў краіну яшчэ нязведаную*
*а потым ты на каленях сказаў што мяне кахаеш*
*аддаў ты мне сваё сэрца і думкі рукі душу і цела*
*пашыўшы белую сукню я сказала што кахаю цябе*
*а ты ўзяў мяне на рукі і ўсміхаючыся ў царкву занёс*
*і там нам рукі звязалі і далі адну дарогу жыцця*
*круціліся слёзы ў вачах свечкі ясна ўжо дагаралі*
*а ты мне ціхенька сказаў ты заўсёды будзеш мая.*

**Жэня Аўсенюк**

---




**Мечыслаў Луцкевіч**, Кумяла, пошта Загужэ. Рады вашаму пісьму. Дзякуем за запрашэнне прыехаць у вёску, пазнаёміцца з вамі, з іншымі людзьмі. Прыедзе рэдактар Янка Цялушэцкі. Калі? — дакладна ў нашай працы вызначыць час цяжкавата, але, думаем, неўзабаве.

**Насця Грыко**, Бандары. Цешымся, што адкрылі вас, а правільней, вы нам адкрыліся сваімі вершамі. Пішыце! Найлепшыя — пра вясковае жыццё-быццё, звычаі і людзей. Пра клуб у Бандарах таксама надрукуем.

**Дзядзька Квас**, жывіце і пішыце яшчэ доўга-доўга, толькі не пра хуткую сваю смерць. Вы і яе рассмешыце і не возьме вас. Верш сатырычны пра ПГР надрукуем.

**Анна Яканюк** з Бельска. Верш „Каханне“ надрукуем. Прабуйце пісаць больш, што на сэрцы накіпела.

**Кара-кум** (так будзем называць вас), найперш — не пераставайце пісаць інфармацыі на 7 „ніваўскую“ старонку. А вершы таксама можна. У двух прысланых ёсць цікавыя думкі. Крыху дапрацуем і надрукуем.

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

### ПРА МЕЛІЯРАЦЫЮ НАД СУПРАСЛЮ

У 16 нумары мы апублікавалі малую інфармацыю карэспандэнта пра меліяраваныя лугі ў даліне ракі Супрасль, бытцам дрэнна даглядаецца яна. У адказе **Ваяводскага праўлення сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку** бачым пашыраную і цікавую інфармацыю на гэтую ж тэму. Наша скарга была праверана. Дзякуем за такі шырокі адказ, бо ён многае высвятляе людзям, дзякуем і за прапанову больш цеснага супрацоўніцтва з нашай рэдакцыяй. Ніжэй поўны адказ.

W związku z artykułem prasowym zamieszczonym w Waszym Tygodniku z dnia 18.IV. 1976 r. pt. „Melioracja — dobra racja”, Wojewódzki Zarząd Inwestycji Rolniczych w Białymstoku w dniach 9—10.VI.br. przeprowadził kontrolę działalności Gminnej Spółki Wodnej w Supraślu i ustalił co następuje:

1. Zatwierdzony przez Walne Zgromadzenie członków Gminnej Spółki Wodnej plan realizacji zadań gospodarczych na 1976 rok przewiduje wykonanie konserwacji 90,1 km rowów otwartych, w tym konserwacji gruntowej 29,5 km rowów. W ramach ustalonego planu realizacji zadań gospodarczych przewidziane jest do wykonania odmulenie dna rowów warstwą 20 cm na długości 29,5 km, warstwą 10 cm na długości 49,8 km, dwukrotne obkoszenie skarp i dna rowów. na całej długości oraz naprawa budowli i przepustów. Na wykonanie określonych zadań gospodarczych członkowie Gminnej Spółki Wodnej ustalili dobrowolnie składki udziałowe w wysokości 300 zł/1 ha obszaru zmeliorowanego. Składki udziałowe w tej wysokości zostały ustalone na lata 1976—80.
2. Do realizacji nakreślonych zadań gospodarczych na terenie Gminnej Spółki Wodnej w Supraślu zatrudnionych jest 9 stałych konserwatorów urządzeń wodno-melioracyjnych. Do dnia kontroli zatrudnieni konserwatorzy wykonali 22,0 km odmulenia dna rowów oraz prowadzili nawodnienie na obiekcie Sokołda i Supraśl Środkowa. Otrzymali również polecenie służbowe wykonania obkoszenia skarp i dna wszystkich istniejących rowów w terminie do dnia 30.VI. br.
3. Nawodnienie na obiekcie Sokołda prowadzone było prawidłowo. Natomiast na obiekcie Supraśl Środkowa brak jest technicznych możliwości do prawidłowego nawodnienia całości areału zagospodarowanych użytków zielonych. Problem ten zostanie rozwiązany po wybudowaniu zbiornika retencyjnego „Siemianówka”.

Stwierdzone drobne uchybienia w zakresie ewidencji urządzeń wodno-melioracyjnych nie rzutują na całokształt działalności Spółki Wodnej.

Tut. Zarząd — sprawujący nadzór nad działalnością Spółek Wodnych, pracą Gminnej Spółki Wodnej w Supraślu w zakresie eksploatacji i konserwacji urządzeń melioracyjnych szczegółowych — ocenia pozytywnie.

Informując o powyższym tut. Zarząd pragnie nawiązać dalsze kontakty z Waszym poczytnym pismem w celu wyjaśnienia rolnikom białostockim problemów związanych z eksploatacją obiektów zmeliorowanych oraz pracą Spółek Wodnych.

Z-ca Dyrektora
d/s Eksploatacji Urządzeń Wodnych i Melioracyjnych
inż. Eugeniusz Wojtecki

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

## ВЕГЕТАРЫЯНЦЫ

*Толькі стукнула мне дваццаць —*
*Перастаў галіцца*
*І сказаў: „Сябры, бывайце!*
*Буду ўжо жаніцца!..“*

*Нарачоная знайшлася —*
*Кветачка Аксанка.*
*„Я, — заўважыла тым часам, —*
*Ве-ге-та-ры-ян-ка!..*

*Калі хочаш быць здаровым,*
*Многа жыць на свеце, —*
*Страў гароднінa-садовых*
*Болей трэба есці...“*

*„Пераходзь на флорастравы*
*І забудзь пра мяса“, —*
*Зноў напомніла ласкава,*
*Як прыйшлі мы з ЗАГСа.*

*„Усё буду есці, люба,*
*Што ні загадаеш:*
*Хрэн з варэннем, з цукрам бульбу,*
*Гарбузянку з чаем“.*

*Разышліся ўсе з вяселля —*
*Трэба спаць лажыцца.*
*Ёй я ранкам на пахмелле*
*Манны суп з гарчыцай.*

*На палудзень з апетытам*
*З'еў капусты міску,*
*Два маркоўныя бісквіты*
*І салат з радыскі,*

*Вінегрэт з аладкай ячнай*
*Як далікатэсы...*
*А ў сталоўцы пахнуць смачна*
*Шніцалі, біфштэксы.*

*Заказаў сабе я шніцаль,*
*Піражкі ў смятане.*
*Толькі есці прымасціўся —*
*Тут як тут Аксана.*

*„А-а-а! От добрая дыэта“, —*
*Мне папрок адразу...*
*„Ды не мяса, кажу, гэта*
*Далібог, не мяса!..“*

*Узяла відэльцам шніцаль*
*І драбнічку з'ела.*
*І смяецца маладзіца —*
*Раптам падабрэла.*

*Прабачэння за памылку*
*Нават папрасіла:*
*„Еш, тут мяса ні драбінкі.*
*Не крыўдуй, мой мілы“.*

**Сцяпан Грыцэнка**

## ГУМАР З...

### АДКАЗ НА ЛІСТ

Пайшоў сын у армію, а старэнькая маці чакае ад яго вестак. Раптам прыходзіць ліст. „Мама, — піша малады салдат, — мяне прызначылі ў кавалерыю, прышліце хутчэй грошай на каня“.

Маці выслала. Не прайшоў і месяц, прапіў сын грошы ды й піша да мамы: „Мяне прызначылі ў артылерыю, шліце грошы на гармату“.

Старэнькая не разгубілася і адказала: „Сынок, таго пісьма, у якім ты просіш грошай на гармату, мы не атрымалі!“

## НІЎКА

### УСЕМАГУТНЫЯ СІНОПТЫКІ

— Мама, якое будзе заўтра надвор'е?

— А гэта, сынок, залежыць ад сіноптыкаў.

### СКНАРА

— Мой муж аказаўся такім скнарам! — скардзілася адна маладзіца сваёй сяброўцы. — Ён вельмі раз'юшыўся, калі я ўсыпала ў яго талерку лішнюю дробку солі.

### У КАРЧМЕ „СЕМАЕ НЕБА“

Кастусь падыходзіць да карчмара і кажа:

— Не дасі яшчэ шкляначку на дарогу?

— Не дам, таму што пасля яе табе спатрэбіцца яшчэ адна шкляначка — на канаву.

### ЦУДОЎНЫ ВЕЧАР

Малады чалавек прыйшоў да сваёй дзяўчыны:

— Сёння мы правядзем цудоўны вечар, дарагая. Я ўзяў тры білеты ў тэатр.

— Навошта табе спатрэбіліся тры білеты? — спытала яна.

— Для бацькі, мамы і брата! — адказаў ён.

### НЕ Ў ТОЙ БОК

— Куды ты, Кастусь, бяжыш?

— На працу.

— Табе ж зранку.

— Вось-вось. Спазняюся. Бач, дзе ўжо сонца.

— Яно ж заходзіць.

— Гм... І праўда... Відаць, не ў той бок гляную.

## ЗМЕНА ПОГЛЯДАЎ

— Ало! Як жывеш, браток?

— А як вы?

— Што значыць „вы“? Ці мо не пазнаў?

— Не зусім.

— Ды гэта Пятровіч турбуе. Ёсць чутка, што скора ў нас рэвізія будзе. Пэўна ж, цябе зноўку прышлюць?

— Не ведаю.

— А што ж тут ведаць! Тыя разы цябе пасылалі, значыць, і на гэты раз пашлюць. Вось і хачу з табой дамовіцца наперад: паглядзіш на нашу бухгалтэрыю з добрага боку — з мяне бутэлечка. Зразумеў?

— Што?

— Ну, не крыўдуй, гэта толькі так гаворыцца „бутэлечка“, а будзе і дзве, і тры, пры пэўнай закусі. Спаткаемся на старым месцы — у рэстаране.

— Што? Што такое вы гаворыце?

— На старым месцы, кажу. Ці можа перавандруем на новае?

— Можна і на новае.

— А куды іменна?

— У пракуратуру.

— Ало! Я пэўна не туды патрапіў. Гэта тэлефон Сямёна Юхімавіча?

— Але.

— А дзе ж сам Сямён Юхімавіч?

— А ён ужо два месяцы, як за кратамі.

— За крат... (піп... піп... піп...).

**Анатоль Гармацюк**

— *Вось такім манерам другі дзень рыбу глушыць...*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На вечарыне багаты бацька гутарыў з групай маладых людзей:

— Мае дочкі будуць усе добра абяспечаны, калі яны выйдуць замуж, — сказаў ён. — Ан — маладошая, ёй 17, атрымае тысячу фунтаў; Філес, ёй 25, атрымае дзве тысячы фунтаў, і Берыл, якой 30, атрымае чатыры тысячы.

— Выбачайце, сэр, — спытаў адзін з маладых людзей, — ці няма ў вас яшчэ адной год пад пяцьдзесят?

* ✲ *

Жабрак глядзіць, як маляр малюе лаўку ў парку, і пытае:

— Выбачайце, сябра, як вы думаеце, высахне гэта лаўка да дзевятай гадзіны вечара?

— А чаму вы пытаеце аб гэтым?

— Бачыце, я не люблю пазней класціся спаць.

**...Аскет: каб пабудаваць дачу і купіць машыну, ён пяць год сядзеў на адным хлебе. Загадваў базай хлебапрадуктаў.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе М. Картюк, А. Грыгарук з Агародзікаў, Я. Нікіцюка з Мокрага, Л. Мацюкі з Новаберазова, Э. Юзовіч з Зарэчан, Я. Аўсенюк з Кнаразоў змяшчаем песню*

## CZERWONA RUTA

**Muzyka i słowa ukraińskie: W. Iwasiuk**
**Słowa polskie: Janusz Laskowski**

—■-■—

Wyznaj, wyznaj dziś mi
jakie czary rzuciłaś,
czemu smutne me dni,
czemu smutna ta miłość?
Ruty w lesie rósł kwiat,
wietrzyk szepnął ci: zerwij!
Ruty na mnie czar padł,
ruty zapach i czerwień.

Jak górski strumień,
piękno nieść, kochać umiesz,
jesteś jak leśna ruta,
ruty czerwień, czar.

Nie szukaj miła,
skarbów tych, któreś śniła,
urok twój — kolor ruty,
ruty czar.

Ciebie przyniósł mi sen,
przyniósł lasem zielonym.
Zwiewna, lekka jak cień,
idziesz ścieżką mych wspomnień.
Miłość w sercu na dnie
kryje słowa łaskawsze.
Widzę ciebie we śnie,
będziesz ze mną już zawsze.

*Ти признайся мені,*
*Звідки в тебе ті чари.*
*Я без тебе всі дні*
*У полоні печалі.*
*Може, десь у лісах*
*Ти чар-зілля шукала,*
*Сонце-руту знайшла,*
*І мене зчарувала.*

*Червону руту*
*Не шукай вечорами.*
*Ти у мене едина,*
*Тільки ти, повір.*
*Бо твоя врода —*
*То є чистая вода,*
*То бистрая вода,*
*Синіх гір.*

*Бачу я тебе в снах*
*У дібровах зелених.*
*По забутих стежках*
*Ти приходиш до мене.*
*І не треба нести*
*Мені квітку надії,*
*Бо давно уже ти*
*Увійшла в мої мрії.*

## КУРЁЗЫ

### ПРАВА НА ЖОНКУ

Паводле ірландскіх законаў, муж з'яўляецца „законным гаспадаром“ сваёй жонкі. На гэтай падставе суд у Дубліне прыгаварыў аднаго мужчыну да выплаты буйнай грашовай кампенсацыі мужу, жонку якога гэты мужчына звёў. Адначасова суддзя аб'явіў, што абвінавачваемы атрымае „права“ на звядзеную жанчыну пасля выплаты кампенсацыі, паколькі тым самым ён перакупіць гэта права ў былога мужа.

### ДОЎТАЖЫХАРЫ: ЮБІЛЯРЫ І МАХЛЯРЫ

У свой дваццаць чацвёрты дзень нараджэння аўстралійка Маргарэт Айсбет атрымала сотні віншаванняў. Сярод іх былі нават тэлеграмы ад папы рымскага і каралевы Елізаветы. Многія віншавалі Айсбет з далучэннем да „эліты доўгажыхароў“. У 24 гады? На самай справе Айсбет споўнілася сто гадоў. Яна нарадзілася 29 лютага 1876 года і таму святкуе свае дні нараджэння раз у чатыры гады. У 1900 годзе Айсбет не пашанцавала. Справа ў тым, што, калі на стыку стагоддзяў лічба, якая азначае высакосны год, не дзеліцца на 400, дзень 29 лютага ў яго календары адсутнічае. „Нічога, пачакаю да 2000-га“, — сказала сабе тады Маргарэт Айсбет...

### ЦЯРПЛІВЕЙ НА 2,2 СЕКУНДЫ

27 гадзін 33 мінуты 2,2 секунды — такі час паказаў 29-гадовы Т. Рынел з Крайстчэрча, які стаў цяпер сусветным рэкардсменам па... ляжанню на цвіках. Папярэдні „рэкорд“, які належаў аўстралійскаму аматару „вострамаканечных адчуванняў“, палепшаны на 2,2 секунды.

## СМЕЯЦЦА З НАМІ

**Высмактваць тэму з пальца — негігіенічна.**